# КУЛЬТУРА

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА № 3 (265) 21 — 27 студзеня 1997 г. КОШТ 2500 РУБЛЁЎ

***18 студзеня ў Цэнтральным Доме Моды на галоўны подыум краіны выйшаў... мамант, які вёз на сваёй спіне папулярную тэлевядучую Ларысу Грыбалёву. На гэты раз яна "вяла" экстравагантнае свята моды.***

# НЯХАЙ АЖЫВУЦЬ "МАМАНТЫ" І НЕ ВЫМІРАЮЦЬ!





Праграма беларускага тэлебачання "Бон Тон" і персанальна яе "руляві" Юрый Брэус выступілі арганізатарамі Другога фестывалю авангарднай моды "Мамант".

На працягу амаль трох гадзін шчасліўцы, якім хапіла месцаў у невялікай дэманстрацыйнай зале Дома Моды, мелі магчымасць назіраць феерверк нестандартных ідэй, увасобленых у твор мастацтва, які мы ў будзённым жыцці называем проста — адзенне.

Усплёск радасці, смех, шок, збянтэжанасць, разгубленасць і, безумоўна, задавальненне — вось тыя пачуцці, што завіроўвалі гледача і саміх удзельнікаў.

А самай лепшай, па меркаванні добразычліўцаў, як было прынята называць журы, — стала калекцыя "Цір" Таццяны Карымавай.

Дыпломамі лаўрэатаў былі адзначаны яшчэ сем твораў мастацтва, сярод якіх: "Схема" Дзмітрыя Кухарчыка, "Субота і работа" Алены Коршак, "Камедыя Дэль'Артэ" Сушчэўскай Лады, "Тормаз" Жвікавай Эллы, "Зной" Алеся Андраюка, "Станцуй рок" Арсенія Хомчыка і "Цырата" Наталлі Петрашко — навучэнкі ПТВ швейнікаў № 13.

А "Міс-авангард" стала 15-гадовая манекеншчыца Цэнтральнага Дома Моды Людміла Бахмут.

Што ж, вялікі дзякуй за падоранае свята і арганізатарам, і ўдзельнікам, і мастакам-пастаноўшчыкам — Гоманавай Галіне і Шкаевай Алене, і, вядома, фундатару — кампаніі "Белсолэкс".

Да сустрэчы, "Мамант", у 1998 годзе!

**С.М.**

**Фота Генадзя ЖЫНКОВА**







НАТАТНІК ТЫДНЯ

# ПАЛАЖЭННЕ

## аб конкурсе праектаў праграм рэалізацыі прыярытэтных напрамкаў дзяржаўнай культурнай палітыкі

**Мэты конкурсу:**

— стымуляванне творчай актыўнасці работнікаў органаў і ўстаноў культуры ў рэалізацыі прыярытэтных накірункаў дзяржаўнай культурнай палітыкі;

— выяўленне праграм, найбольш мэтазгодных для рэалізацыі на рэспубліканскім і мясцовых узроўнях;

— адпрацоўка методыкі падрыхтоўкі, адбору і рэалізацыі мэтавых праграм;

— аналіз і распаўсюджванне станоўчага вопыту падрыхтоўкі праграм;

— укараненне ў практыку механізма мэтавага фінансавання праграм.

**Удзельнікі конкурсу**

У конкурсе могуць прыняць удзел органы, установы, арганізацыі культуры, творчыя саюзы, калектывы, а таксама асобныя работнікі культуры, мастацтва, іншыя грамадзяне Беларусі.

**Тэрміны конкурсу**

Матэрыялы на конкурс дасылаюцца пасля разгляду ва ўпраўленнях культуры аблвыканкамаў і Мінгарвыканкама ў Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь (220004, Мінск, пр.Машэрава, 11) да 1 мая 1997 года. Рэспубліканскія арганізацыі, установы, творчыя саюзы прадстаўляюць праграмы непасрэдна ў міністэрства.

**Прыкладная структура прадстаўляемай на конкурс праграмы**

1. Назва праекта праграмы.
2. Назва арганізацыі, якая прадстаўляе праект. Кароткая інфармацыя аб заяўніцелях.
3. Абгрунтаванне праекта:
3.1. Назва накірунка сацыякультурнай дзейнасці.
3.2. Праблемная сітуацыя рэгіёна (галіны, установы).
3.3 Сацыяльная база праграмы (катэгорыя насельніцтва, на якую разлічана праграма).
3.4 Мэты і задачы праграмы.
3.5 Змест праграмы:
— канкрэтныя напрамкі дзейнасці;
— мерапрыемствы па рэалізацыі асноўных напрамкаў;
— тэрміны выканання мерапрыемстваў;
— адказныя.
4. Навукова-метадычнае забеспячэнне праграмы.
5. Матэрыяльна-тэхнічная база.
6. Кадравае забеспячэнне.
7. Эканамічнае абгрунтаванне праграмы.
7.1 Плануемыя выдаткі (персанал выканаўцаў, кансультантаў, абсталяванне, камандзіроўкі, транспарт і інш.)
7.2. Крыніцы фінансавання (рэспубліканскія і мясцовыя бюджэты, ведамасныя сродкі, спонсарскія ўкладанні і інш.).
8. Чакаемая рэзультатыўнасць (асноўныя этапы выканання праграмы (кантрольныя паказчыкі).

**Экспертная ацэнка праграмы.**

Прадстаўленыя на конкурс праграмы ацэньваюцца па наступных крытэрыях:

— адпаведнасць накірункаў праграмы прыярытэтам культурнай палітыкі рэспублікі (пералік дадаецца);

— адпаведнасць зместу праграмы выбранай тэме, паўната раскрыцця і аргументаванасць асноўных раздзелаў праграмы;

— улік сацыякультурнага патэнцыялу, неабходнага для выканання праграмы;

— рэалістычнасць праграмы з пункта гледжання матэрыяльных, фінансавых, тэхнічных, кадравых рэсурсаў.

**Падвядзенне вынікаў конкурсу.**

Праекты праграм, прызнаныя экспертамі найбольш важнымі для захавання і развіцця культурнага патэнцыялу рэспублікі, разглядаюцца калегіяй Міністэрства культуры з мэтай вызначэння формаў удзелу міністэрства і аб'ёму фінансавання ў рэалізацыі праграм.

Лепшыя з вызначаных праектаў мясцовага ўзроўню рэкамендуюцца да прыняцця адпаведнымі органамі кіравання.

Аўтары прынятых праграм могуць выступаць асноўнымі іх выканаўцамі або каардынатарамі і па выніках рэалізацыі праграм могуць заахвочвацца Міністэрствам культуры.

***ПЕРАЛІК конкурсных тэм, вызначаных у адпаведнасці з прыярытэтнымі напрамкамі дзяржаўнай культурнай палітыкі на 1997 — 2000 гады***

Канцэртнае абслугоўванне насельніцтва сельскіх і пацярпеўшых ад аварыі на ЧАЭС раёнаў.

Правядзенне фестываляў філарманічнага і эстраднага мастацтва, конкурсаў творчай моладзі, у тым ліку міжнародных (канцэпцыі, палажэнні).

Стварэнне цыркавых праграм з удзелам беларускіх артыстаў.

Стварэнне мастацкіх галерэй.

Забеспячэнне дзейнасці "народных" і "ўзорных" мастацкіх калектываў (абласная, гарадская, раённая праграмы, праграма асобнай установы культуры).

Падтрымка творчай дзейнасці майстроў традыцыйных промыслаў, рамёстваў, носьбітаў фальклору (рэспубліканская, абласная, раённая, гарадская праграмы, праграма падтрымкі асобнага віду рамёстваў, промыслаў, асобнага майстра, дома рамёстваў,фальклорнага калектыву).

Стварэнне сістэмы перадачы тэхналогій традыцыйнай культуры сучасным і будучым пакаленням (рэспубліканская, абласная, гарадская, раённая праграмы папулярызацыі і захавання традыцыйнай культуры, праграма работы з моладдзю дома рамёстваў, падтрымкі настаўніцкай працы асобнага майстра, метадычнага распрацоўкі).

Рэалізацыя рэгіянальнай праграмы "Адраджэнне традыцыйнай культуры Палесся".

Падтрымка творча адораных дзяцей і моладзі.

Арганізацыя вучобы кіруючых работнікаў культуры і мастацтва (праекты вучэбных праграм).

Рэалізацыя дзяржаўнай праграмы "Беларусы ў свеце" (абласная, раённая праграма памежных культурных сувязей, праграма ўзаемадзеяння з канкрэтным таварыствам беларусаў замежжа).

Захаванне, адраджэнне і развіццё культур нацыянальных меншасцей Беларусі (рэспубліканская, абласная, гарадская, раённая праграмы, праграма ўстановы культуры, канцэпцыя развіцця асобнай нацыянальнай культуры, канцэпцыя II рэспубліканскага фестывалю нацыянальных культур).

Творчае і кадравае забеспячэнне дзейнасці тэатраў рэспублікі.

Развіццё міжнародных культурных сувязей (стварэнне Цэнтра менеджмента, праекты супрацоўніцтва з міжнароднымі арганізацыямі).

# ПРЭМІІ

Згодна з Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь №20, засnаваны пяць штогадовых прэмій "За духоўнае адраджэнне". Прэміі прысуджаюцца за выдатныя творы літаратуры і мастацтва, актыўную падзвіжніцкую дзейнасць у гуманітарнай галіне, накіраваную на развіццё прагрэсіўных мастацка-маральных традыцый, якія садзейнічаюць усталяванню духоўных каштоўнасцей, ідэй дружбы і братэрства паміж людзьмі розных нацыянальнасцей і веравызнанняў.

Пасля разгляду прадстаўленняў Міністэрства культуры і Беларускай праваслаўнай царквы Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь № 21 прысуджаны прэміі "За духоўнае адраджэнне" 1996 года. Іх атрымалі: Роўда Віктар Уладзіміравіч (народны артыст СССР, прафесар); Карасталёў Ігар Еўдакімавіч — (настаяцель храма ў гонар абраза Божай Маці "Усіх тужлівых радасці"); Плюшчова Вера Максімаўна (сястра міласэрнасці); удзельнікі ансамбля "Чысты голас" Чысцякова Людміла Барысаўна, Касціцын Аляксандр Фёдаравіч, Прыгун Валерый Уладзіміравіч, Пыжык Андрэй Мікалаевіч, Рудзевіч Юрый Рамуальдавіч, Сямёнаў Алег Міхайлавіч.



*На Хрышчэнне...*

**Фотаэцюд Генадзя ЖЫНКОВА**

# НЕЧАКАНАЯ ВЕСТКА

Ці можна сёння здзівіцца якой-небудзь навіне? Уявіце сабе: можна! Музычны свет сталіцы ўразіла і ўзрадавала нечаканая вестка: Андрэй Сікорскі, уладальнік Гран-пры міжнароднага конкурсу "Фартэпіяна. Мінск-96", на якім выступаў як прадстаўнік Расіі, вяртаецца ў Мінск. Колішні вучань добра вядомага ўсім Юрыя Гільдзюка некалькі гадоў таму, пасля перамогі на міжнародным конкурсе ў Італіі, выехаў жыць і працаваць у Маскву. Відаць, абставіны склаліся там не на карысць нашага таленавітага суайчынніка: Андрэй Сікорскі ў хуткім часе зноў прыедзе ў родны горад і, на думку Ю.Гільдзюка, створыць пэўную аўру ў музычным свеце нашай сталіцы, як некалі Ігар Алоўнікаў.

**А.Р.**

# НОВЫ БІБЛІЯГРАФІЧНЫ ПАКАЗАЛЬНІК

Змены, якія адбыліся ў нашым грамадстве, стварылі ўмовы для сцірання "белых плям" у гісторыі дзяржавы. Шматлікія публікацыі апошніх гадоў па-новаму асвятляюць нашу гістарычную мінуўшчыну. Арыентавацца ў дакументальным патоку вельмі не проста.

Нацыянальная бібліятэка спадзяецца, што кожнаму, хто цікавіцца гісторыяй Бацькаўшчыны, можа дапамагчы бібліяграфічны паказальнік "Новая літаратура па гісторыі і гістарычных навуках Беларусі", які выдаецца ў яе сценах. На сённяшні дзень свет пабачылі ўжо тры выпускі.

У першым сабраны публікацыі 1990 г., незалежна ад мовы і месца выдання, у другім — 1991, у трэцім (у 2-х кн.) — 1992. Кожны з іх уключае, па магчымасці, усе матэрыялы, якія датычацца гісторыі, археалогіі і этнаграфіі Рэспублікі. Адлюстраваны тут таксама звесткі па дапаможных гістарычных дысцыплінах — крыніцазнаўству, генеалогіі, геральдыцы, тапаніміцы і інш. Спецыяльна выдзелены матэрыял па гісторыі краязнаўчага руху, асобных мясцовасцях, помніках культуры, музеях і архівах. Самастойны раздзел прысвечаны праблемам беларускага замежжа.

У структуры кожнага выпуску ёсць некаторыя адрозненні: у залежнасці ад наяўнасці матэрыялаў з'яўляюцца новыя рубрыкі.

Бібліяграфічнае апісанне кніг, артыкулаў часопісаў і газет (рэспубліканскіх, абласных, гарадскіх, раённых), аўтарэфератаў дысертацый суправаджаюцца анатацыямі, якія ўдакладняюць назвы работ, час і месца дзеяння, прозвішчы ўдзельнікаў падзей.

Выданне забяспечана імянным і геаграфічным дапаможнікамі, асобна сабраны звесткі аб навуковых форумах, святах, юбілеях.

На жаль, набыць паказальнік сёння амаль немагчыма з-за яго невялікага накладу. Але ў Нацыянальнай бібліятэцы можна набыць яго камп'ютэрны варыянт на дыскеце. Каго зацікавіла гэтая інфармацыя, звяртайцеся па тэл.: 227-16-80 (навукова-бібліяграфічны аддзел).

**Галіна АНТОНАВА, вядучы бібліёграф навукова-бібліяграфічнага аддзела.**

# ІМЯ, ЯКІМ МОЖА ГАНАРЫЦЦА НАЦЫЯ



4 студзеня 1997 года пайшоў з жыцця цудоўны чалавек, таленавіты музыкант, адміністратар, дырыжор і педагог, лаўрэат Усесаюзных фестываляў і Рэспубліканскіх конкурсаў, заслужаны дзеяч культуры Рэспублікі Беларусь Міхаіл Мікалаевіч Салдатаў.

У музычных колах Беларусі і за яе межамі людзі розных пакаленняў ведаюць і паважаюць Міхаіла Мікалаевіча. Ягоная праца — гэта вяха ў культурным жыцці рэспублікі. Сапраўдны энтузіяст і прапагандыст, самааддана адданы сваёй прафесіі, Міхаіл Мікалаевіч цалкам аддаў сваю любоў і талент людзям, і людзі ўдзячныя яму за гэта.

М.Салдатаў нарадзіўся 25 жніўня 1930 года ў беднай шматдзетнай сям'і чыгуначніка. Ва ўзросце 10 гадоў застаўся сіратой. Хутка прамільгнула цяжкае маленства і напаўгаладнае юнацтва, калі Міша Салдатаў працаваў баяністам у драматычных тэатры і вучыўся ў Станіслаўскай музычнай вучэльні, якую скончыў у 1950 годзе з дыпломам з адзнакай. Але адорана юнак імкнуўся да ведаў. Тое, што ў вучэльні ён вывучаў духавыя інструменты, дало яму магчымасць паступіць у Ленінградскую кансерваторыю імя Рымскага-Корсакава. Веды, атрыманыя ім у кансерваторыі па дырыжыраванні, інструментоўцы, чытанні партытур, працы з аркестрам і фартэпіяна, развілі ягоныя прыродныя дадзеныя, а кансерваторыя, якую ён бліскуча скончыў у 1956 годзе, дала яму сапраўдную пуцёўку ў жыццё.

Пачынаючы з 1956 года ягоны лёс быў звязаны з Беларуссю. У лістападзе гэтага года Міністэрствам культуры БССР М.Салдатаў быў прызначаны дырэктарам Магілёўскай музычнай вучэльні. З гэтага моманту музычная вучэльня літаральна адрадзілася, набыўшы ў асобе маладога дырэктара цудоўнага музыканта, арганізатара і адміністратара. Магілёўская музычная вучэльня стала "кузняй кадраў" для Беларускай кансерваторыі, асабліва духавых і струнных інструментаў. Многія выпускнікі сталі паступаць у Маскоўскую і Ленінградскую кансерваторыі. Непазнавальна змянілася культурнае жыццё горада. Музыканты з сусветным імем, такія як С.Рыхтэр, М.Растраповіч, Э.Гілельс, Б.Гутнікаў, М.Вайман і іншыя сталі частымі гасцямі ў Магілёве. Міхаіл Мікалаевіч актыўна ўдзельнічаў у грамадскапалітычным жыцці горада: быў дэпутатам гарадскога савета, старшынёй камісіі па культуры, старшынёй і членам журы рэспубліканскіх, абласных, гарадскіх конкурсаў, фестываляў, членам калегіі ўпраўлення культуры Магілёўскага аблвыканкама, рэжысёрам канцэртаў і г.д. Пры ягоным садзейнічанні былі адкрыты чатыры музычныя школы.

Але вяршыняй ягонай творчасці была, безумоўна, праца з аркестрам. Ягонае дзіця — Магілёўскі гарадскі сімфанічны аркестр — быў вядомы не толькі на Беларусі, але і за яе межамі. Неаднаразова аркестр выязджаў з канцэртнымі праграмамі ў Маскву, канцэрты трансляваліся па цэнтральным тэлебачанні, выступаў ва ўсіх вялікіх гарадах Беларусі, удзельнічаў у конкурсах, фестывалях, дэкадах, яму было нададзена званне "Народны", двойчы лаўрэат Усесаюзных фестываляў, лаўрэат Рэспубліканскага конкурсу, сярэбраны медаль ВДНГ СССР. Высокі прафесійны ўзровень выканання калектыву, які быў прызнаны лепшым у рэспубліцы так кімі аўтарытэтамі як Л.Александроўская, І.Жыновіч, Г.Цітовіч і іншыя, сведчыў пра творчае майстэрства ягонага дырыжора. А рэпертуар: Чайкоўскі — "Італьянскае капрычыо", Чацвёртая сімфонія, уверцюра "Рамео і Джульета", Хачатуран — Канцэрт для скрыпкі, Рымскі-Корсакаў — "Бітва пры Кержанцы", "Іспанскае капрычыо" — робіць больш поўнай характарыстыку калектыву і ягонага кіраўніка.

Разам з сімфанічным аркестрам М.Салдатаў кіраваў Магілёўскім гарадскім духавым аркестрам і эстрадна-сімфанічным аркестрам ДК "Хімвалакно". Гэтыя калектывы таксама сталі вядомымі, выязджалі з гастролямі за мяжу, атрымалі шматлікія ўзнагароды.

За сваю працу М.Салдатаў узнагароджаны чатырма Ганаровымі граматамі Вярхоўнага Савета БССР (1959г., 1963г., 1965г., 1977г.), медалём "За доблесную працу", ганаровым знакам "За выдатную працу", Знакам ВЦСПС, сярэбраным медалём ВДНГ СССР, Ганаровымі граматамі многіх міністэрстваў і ведамстваў. Ягоныя вучні працуюць ва ўсіх навучальных установах Беларусі, у тым ліку і ў Акадэміі музыкі, ва ўсіх прафесійных аркестрах краіны (аркестр радыё і тэлебачання, опернага тэатра, тэатра музычнай камедыі, камерны аркестр), ва ўсіх вучэльнях і школах, многія ягоныя выхаванцы паехалі за мяжу і там застаюцца вернымі сабе і свайму педагогу.

У 1981 годзе М.Салдатаў быў запрошаны на працу ў Мінскі інстытут культуры, дзе працаваў старшым выкладчыкам, дацэнтам, загадчыкам кафедры эстрадна-духавога дырыжыравання. Кіраваў эстрадна-сімфанічным і духавым аркестрамі Мінскага інстытута культуры. Абодва калектывы выступалі бліскуча на ўсіх канцэртных пляцоўках і па тэлебачанні, узнагароджаны Ганаровымі граматамі Міністэрства вышэйшай адукацыі і Міністэрства культуры, а духавы аркестр інстытута ўдзельнічаў у міжнародным студэнцкім свяце "Гаўдэамус IX", які праходзіў у Таліне.

Не адно пакаленне музыкантаў прайшло праз таленавітыя рукі гэтага чалавека, які вельмі любіў сваю прафесію, аддаў ёй усё сваё жыццё. Усе яго вучні ўдзячныя свайму настаўніку за гэта, памятаюць, шануюць і высока нясуць эстафету дабрыні, якую ўручыў ім іхні Настаўнік.

У асобе Міхаіла Мікалаевіча Салдатава краіна страціла таленавітага дырыжора, цудоўнага музыканта, чулага педагога.

**М.КАРАЛЬКОЎ, дэкан факультэта мастацкай творчасці Беларускага універсітэта культуры, кандыдат філасофскіх навук, дацэнт.**

ЁСЦЬ ПЫТАННЕ!

# ПЕРАЕМНАСЦЬ ТРАДЫЦЫЙ



***На Беларусі здавён у добрым суседстве жылі прадстаўнікі розных веравызнанняў, канфесій. Гісторыкі кажуць, што тут ніколі не было рэлігійных войнаў. Таму невыпадкова буйнейшы ў XVII — XVIII стагоддзях цэнтр пасадскага расколу знаходзіўся ў нас, на Гомельшчыне. Паводле мясцовага летапісу, паселішча Ветку заснавалі маскоўскі "поп царквы ўсіх святых, што на Кулішках", Кузьма і Стэфан з Бялёва з дванаццаццю сямействамі. Сюды прыйшлі выхадцы больш чым з дваццаці расійскіх губерняў. Менавіта тады і Ветка стала буйным рамесным і гандлёвым паселішчам.***

Людзі, якія не мелі дзяржаўнай царквы, вымушаны былі ствараць свой аўтаномны свет, царкву ў сваёй душы, сваёй хаце. Вопыт духоўнага подзвігу стагоддзяў сканцэнтраваўся ў невялікім будынку Веткаўскага музея народнай творчасці. Ён памножаны на прафесіяналізм і самаадданасць супрацоўнікаў музея. Пра музей шмат пісалася і ў "Культуры". Аднак шэраг праблем так і застаюцца нявырашанымі. У прыватнасці, пытанні далейшага знаходжання музея ў Чарнобыльскай зоне, тэрміновага рамонту, змены статуса, адкрыцця цэнтра народных промыслаў.

Аб лёсе Веткаўскага музея нашаму карэспандэнту расказвае галоўны спецыяліст аддзела музеяў і выставаў Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь Сяргей Вечар.

Фонды Веткаўскага музея адпавядаюць самым высокім патрабаванням. Гэта ў першую чаргу тры калекцыі — старадрукі, ткацтва, абразы. Тое, што ўдалося назапасіць, — гэта вялікі пласт старaабрадніцкай культуры. У сувязі з падвышаным узроўнем радыяцыі Веткаўскі раён напалову выселены. Таму раней ставілася пытанне аб пераносенні музея ў іншае месца. Але цяпер яно фактычна знята — не толькі з эканамічнага пункта гледжання, але і з той прычыны, што музей мае сваю каштоўнасць, знаходзячыся менавіта ў гэтым месцы. Акрамя таго, насельніцтва Веткі павялічваецца за кошт эмігрантаў з іншых куткоў былога Саюза.

Варта адзначыць, што ў музеі склаўся унікальны калектыў, падабраны яшчэ яго заснавальнікам Фёдарам Шкляравым. Гэтыя людзі тут выраслі, увабралі мясцовую культуру і робяць усё магчымае, каб захаваць яе.



Што тычыцца статуса музея, то варта падумаць у перспектыве аб яго падвышэнні. У нас ужо ёсць рэгіянальныя музеі рэспубліканскага падпарадкавання. Той жа Нясвіжскі запаведнік, Пінскі музей. Ёсць музеі, якім патрэбна значная ўвага, а раённы статус не дазваляе гэтага зрабіць.

Аднак, улічваючы, што ў супрацоўнікаў Веткаўскга музея склаліся добрыя стасункі з раённымі ўладамі, у дадзеным выпадку можна захаваць і "статус кво". Акрамя таго, істотная падтрымка аказваецца таксама і вобласцю. Напрыклад, адзін з будынкаў музея (пазнейшая прыбудова) зараз фактычна разбураецца. Калі не прыняць тэрміновых мер, то, можа, экспазіцыю прыдзецца нават зачыняць. Складзены праект, паводле якога пабудова будзе разабрана і зроблена наноў. Работы запланаваны на 1997 год і абыдуцца прыблізна ў 900 мільёнаў рублёў. Абласное ўпраўленне культуры будзе непасрэдна займацца арганізацыяй рэканструкцыі. Што тычыцца захавання фондаў, то плануецца паставіць новую сігналізацыю. Цяпер яна адключаецца, калі гасне святло ў горадзе. Новая не будзе залежаць ад перабояў у электразабеспячэнні.

На базе музея мяркуецца стварыць цэнтр па адраджэнні старадаўніх промыслаў Веткаўшчыны. Але тут ёсць арганізацыйнае пытанне — у штатным раскладзе музея не прадугледжаны стаўкі для майстра-шаўца, настаўніка. Унесена прапанова стварыць асобна дом рамёстваў. Але варта, каб гэтая структура ўваходзіла ў музей, бо музейшчыкі — завадатары гэтай справы. Пакуль жа музей вышуквае сродкі сам.



Мне здаецца, што сярод прыярытэтаў дзяржаўнай палітыкі асаблівую ўвагу варта звярнуць на музеі. Тут захоўваецца культурны генафонд нацыі. Так, ёсць тэксты, інтэлектуальныя вышукі, якія прэзентуюць яго і, адпаведна, дзяржаву. Але наш галоўны скарб — у фондах музеяў. Мы гэта разумеем, прыклад таму — тое, што за апошнія гады пры абвальным скарачэнні бібліятэчнай і клубнай сеткі колькасць музеяў нават павялічваецца. Але варта зразумець, што неабходна стварэнне тэхналогіі, якая б дазволіла на духоўным падмурку ствараць матэрыяльныя каштоўнасці. А ў нас яшчэ ёсць магчымасць не толькі ствараць свае "залатыя кольцы", турыстычныя маршруты, але і наладзіць тэхналогію вытворчасці прадметаў нацыянальнай культуры. Кожны прадмет, выраб народнага ўмельца заўсёды меў не эмблемную, сувенірную каштоўнасць, а канкрэтную функцыю — дарыць прыгажосць ці быць практычнай прыладай. Тое, што было намалявана, вытачана, вышыта, напісана, зроблена, вылеплена раней, — наша каштоўнасць, якая павінна знаходзіцца на радзіме. Але гэта не перашкаджае па ўзоры старажытных прадметаў культуры ствараць новыя, якія б можна было прадаваць за мяжу. Для гэтага, вядома, неабходна і адпаведнае рэкламнае забеспячэнне і заканадаўства, якое б стымулявала такую дзейнасць. Асновай павінна быць перш за ўсё новае разуменне музея — не як структуры, што з павагі да часоў мінуўшчыны захоўваецца грамадствам, а жывога цэнтра, які забяспечвае пераемнасць традыцый і выступае гарантам жыццяздольнасці нацыі і, адпаведна, грамадства і дзяржавы.

**Лесь ТУР**

*На здымках: экспанаты Веткаўскага музея і яго агульны выгляд.*

# РАГАЧОЎ — ГОРАД "МУЗЕЙНЫ"...

***Трэці год працуе ў горадзе Рагачове музей "Пісьменнікі — землякі", створаны пры інтэрнаце педагагічнага вучылішча выкладчыкам гэтай навучальнай установы, вялікім аматарам літаратуры, паэтам Уладзімірам Немізанскім. У 1995 годзе на рэспубліканскім конкурсе літаратурных музеяў навучальна-выхаваўчых устаноў Беларусі Рагачоўскі музей заняў трэцяе месца. За кароткі тэрмін дасягнуты такі поспех, што іншыя могуць толькі пазайздросціць.***

***Пра работу музея мы размаўляем з яго стваральнікам і кіраўніком.***

**— Уладзімір Львовіч, раскажыце, калі ласка, пра набыткі Вашага дзецішча.**

— На сённяшні дзень музей налічвае 2482 экспанаты, якія тычацца творчасці 243 аўтараў, чыё жыццё звязана з Рагачоўскім раёнам. У кнізе асноўнага фонду зарэгістравана 312 экспанатаў. Сярод іх — 13 лістоў, напісаных Міхасём Лыньковым, яго асабістыя рэчы і дакументы. Ёсць лісты і дакументы іншых пісьменнікаў.

**— Якія Вы можаце назваць найбольш цікавыя паступленні?**

— Гэта заліковая кніжка лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі Алены Васілевіч, студэнткі Рагачоўскага настаўніцкага інстытута 1939 — 1941 гадоў; ксеракопіі літаратурных старонак газеты "Камунар" за 1932 — 1941 гады; рэдкія фотаздымкі; падшыўка літаратурных старонак газеты "Камунар" за апошнія 24 гады і копіі сямі пісьмаў А.П.Чэхава ў Рагачоўскі раён, пяць пісьмаў В.Васняцова, адрасаваныя пісьменніку У.Кігну: рэдкія кнігі 30 — 40 гадоў; кнігарукапіс вершаў сакратара падпольнага райкома камсамола М.Хілінскага; кнігі з аўтографамі пісьменнікаўземлякоў (больш за сорак); магнітафонны запіс гутаркі Андрэя Макаёнка з рэжысёрам-пастаноўшчыкам спектакля "Верачка" ў 1979 годзе. Многа і іншых цікавых экспанатаў.

**— Уладзімір Львовіч, а як Вы ажыццяўляеце распаўсюджванне ведаў пра пісьменнікаў-землякоў?**

— Перш за ўсё, арганізацыя экскурсій. За 1994 — 1996 гады праведзена 32 экскурсіі, музей наведала 837 чалавек — гэта ў асноўным жыхары Рагачова і раёна, Гомеля і некаторых раёнаў вобласці, удзельнікі разнастайных семінараў бібліятэкараў, выхавацеляў дзіцячых садкоў, культработнікаў. Былі асобныя наведнікі з Масквы, Мінска і Гомеля і іншых месц.

Музей пастаянна прапагандуе дзейнасць пісьменнікаў-землякоў праз раённы і абласны друк, радыё. У педвучылішчы штогод праводзіцца цыкл лекцый "Пісьменнікі-землякі", сустрэчы з паэтамі і празаікамі.

Прыемна адзначыць, што матэрыялы музея выкарыстоўваюцца для падрыхтоўкі мерапрыемстваў, напісання рэфератаў школьнікамі і навучэнцамі вучылішча. На матэрыяле музея абаронены два дыпломныя праекты ў інстытутах.

**— Многія ведаюць пра Вашу вялікую, мэтанакіраваную работу па далучэнні моладзі да творчасці...**

— Сапраўды, з 1944 года па ініцыятыве музея праводзяцца гарадскія конкурсы школьнікаў на лепшы літаратурны твор. Арганізатарамі з'яўляюцца гарадскі аддзел адукацыі, краязнаўчы цэнтр, газета "Свабоднае слова". Аўтары лепшых твораў заахвочваюцца падарункамі, а іх творы друкуюцца ў раённай газеце.

**— Але ж асноўная работа, відаць, ажыццяўляецца ў педвучылішчы?**

— Так, лепшыя творы навучэнцаў змяшчаюцца ў сценгазеце, у альбомах, прапануюцца для перыядычнага друку. За тры апошнія гады надрукаваліся ў "Свабодным слове", "Гомельскай праўдзе", рэспубліканскім часопісе "Першацвет" 58 навучэнцаў педвучылішча. Па прапанове музея падрыхтаваны да друку літаратурна-мастацкі альманах "Рагачоўскі розгалас", у які ўключаны раздзел "Маладыя галасы" з творамі школьнікаў і навучэнцаў педвучылішча.

**— Уладзімір Львовіч, Вы ўвесь час гаворыце: "Музей зрабіў, музей прапанаваў"... Але ж ведаем, што там няма штатных супрацоўнікаў, што ўсю работу ведзяце Вы на грамадскіх пачатках. Мяркую, без праблем не абыходзіцеся?**

— Гэта сапраўды так, хаця мне дапамагаюць студэнты — сапраўдныя аматары літаратуры і роднага слова. Асноўная мая выкладчыцкая работа не дае магчымасці заняцца музейнымі справамі так, як гэтага хацелася б.

Наш музей знайшоў прытулак у невялікім — плошчай 14 квадратных метраў — пакойчыку інтэрната педвучылішча і працуе на грамадскіх пачатках. Большае памяшканне выдзеліць вучылішча не ў стане, а гэтае не дае магчымасці разгарнуць экспазіцыю музея. Ведаеце, родзічы і блізкія пісьменнікаў і самі аўтары пабойваюцца аддаваць экспанаты ў недзяржаўны музей, бо са зменай кіраўніка найбольш каштоўнае можа знікнуць. Вось што напісала мне, напрыклад, унучка Міхася Лынькова Ірына: "Калі будзе вырашана пытанне з памяшканнем, я спадзяюся выслаць штосьці больш істотнае".

Безумоўна, вялікая праблема — збор матэрыялаў: камандзіроўкі, плата за ксеракапіраванне, папаўненне бібліятэкі музея, тэлефанаванне і гэтак далей. Фінансавы ж рахунак вучылішча мізэрны.

**— Якім Вы ўяўляеце музей у будучыні? Давайце памарым!**

— Вялікая экспазіцыйная зала, чытальня (кнігі, часопісы, газеты з творамі пісьменнікаў-землякоў і літаратура пра іх творчасць), пакой для архіва, пакой для супрацоўнікаў (як мінімум, у штаце павінны быць дырэктар, метадыст-экскурсавод, загадчык архіва — бібліятэкар, прыбіральшчыца). Пры належным фінансаванні адкрыць музей можна за паўтара-два гады.

Я перакананы, што музей патрэбны як цэнтр прапаганды літаратурных традыцый горада. У Рагачове часта бываюць афіцыйныя дэлегацыі, турысцкія групы, пашыраецца колькасць адпачываючых у санаторыі "Прыдняпроўскі". Таму мэтазгодна зрабіць Рагачоў не толькі курортным, але і "музейным горадам": раённы музей, краязнаўчы цэнтр, музей "Лёс салдата", літаратурны музей... Было б выдатна, каб спецыялісты прадумалі афармленне Замкавай гары, а ў перспектыве — адкрыццё карціннай галерэі, дзе можна размясціць калекцыю нашага земляка Міхаіла Расолава і творы рагачоўскіх мастакоў, а таксама этнаграфічнага музея.

Падкрэсліваю яшчэ раз: музей патрэбны як цэнтр выхаваўчай работы: выкладчыкі, школьнікі, навучэнцы вучылішчаў горада маглі б тут рыхтавацца да заняткаў і пазакласных мерапрыемстваў, асобныя мерапрыемствы маглі б праводзіцца самім музеем.

**— Як кажуць, Уладзімір Львовіч, надзеяй жыве чалавек. Будзем спадзявацца і мы, што знойдуцца добрыя людзі, задумаюцца над гэтым і пастараюцца дапамагчы. А я дзякую за цікавы аповед і жадаю плёну ў Вашай высакароднай дзейнасці.**

**Гутарыў Міхась КАВАЛЁЎ**

## КАМЕРТОН

# ЖЫЦЦЯ ІМГНЕННІ

***...На адной з пасляваенных вуліц Мінска спявала жанчына. Ёй акампаніраваў мужчына на акардэоне. Маленькая, на выгляд васьмігадовая дзяўчынка стаяла побач і слухала гэты незвычайны "вулічны канцэрт". Яе прывабілі не спевы, — у гэтым дзяўчынка была дасведчаным слухачом. Зараз на яе вачах іграў сапраўдны інструмент — бліскучы і надзіва прыгожы нямецкі акардэон. Ён так спадабаўся, што дзяўчынцы абавязкова захацелася навучыцца іграць самой. На жаль, у музычнай школе, куды яна прыйшла — дарэчы, гэта была ДМШ №2 Аўтазаводскага раёна, якая існуе і зараз, — акардэона не было. Ад скрыпкі і фартэпіяна дзяўчынка адмовілася катэгарычна і нечакана спыніла свой выбар на баяне...***

Менавіта так пачыналася творчая біяграфія дацэнта кафедры баяна і акардэона Акадэміі музыкі Беларусі, тройчы лаўрэата міжнародных конкурсаў Валянціны Пятроўны Пісарчык, для якой сёлетні год — юбілейны. Да таго ж, трыццаць шосты год яе выкладчыцкай дзейнасці. І хоць апошняя дата не "круглая", вынікі яе красамоўныя. Ніхто з вучняў В.Пісарчык не знік бясследна. Шмат каму мудрая настаўніца прывіла імкненне да творчага пошуку, да поўнага раскрыцця нескарыстаных магчымасцяў свайго таленту. Сярод іх вядомыя выкладчыкі і дырэктары музычных школ, вучылішч Мінска, Маладзечна, Гродна, Баранавіч, Шклова, Магілёва, Брэста, Мазыра і іншых гарадоў Беларусі, выкладчыкі Акадэміі музыкі і Універсітэта культуры, выканаўцы знакамітых творчых калектываў рэспублікі, дырыжоры, кампазітары — прынамсі, У.Грушэўскі і М.Літвін. Сапраўдны гонар Валянціны Пятроўны заслужаныя работнікі культуры — дырэктар Маладзечанскага музычнага вучылішча Р.Сарока, дырэктар Шклоўскай музычнай школы В.Бабчык і інш.

Нязменная рыса яе характару, нягледзячы ні на што — дабрыня. Гэта і жыццёвае крэда Валянціны Пятроўны, і аснова яе педагагічнага метаду. У класе В.Пісарчык ніколі не было дрэнных вучняў, праўда, былі "цяжкія". Часцей за ўсё былі здольныя, апантаныя, таленавітыя і... шчыра ўдзячныя. Яны заўсёды тэлефануюць, дасылаюць лісты, наведваюцца ў госці з розных куткоў краіны, з "блізкага" і "далёкага" замежжа, каб падзяліцца ўласнымі дасягненнямі, парадавацца творчым поспехам сваёй старэйшай калегі.

Сярод радні Валянціны Пятроўны шмат музыкантаў-самавукаў: дзед іграў на скрыпцы і флейце, матчына сястра — на акардэоне, а маці мела выдатны голас. Галоўнае, што атрымала В.Пісарчык у спадчыну ад бацькоў, — гэта добрапрыстойнасць, сардэчную шчодрасць і імкненне да нязменнага самаўдасканалення. Таму і па сённяшні дзень яна не развіталася з канцэртным выкананнем. Яшчэ ў музычнай школе даводзілася многа выступаць. Магчыма, дзе-небудзь у архівах беларускага радыё захаваўся запіс "Турэцкага марша" В.А.Моцарта ў выкананні вучаніцы пятага класа Валянціны Шышонак. Падчас вучобы ў музычным вучылішчы яна ўжо была салісткай аркестра народных інструментаў кансерваторыі, якім кіраваў Г.Жыхараў.

Свой выканальніцкі аўтограф пакінула Валянціна Пятроўна і на радыё ў Тамбове, дзе працавала пасля заканчэння "Гнесінкі" ў адным з яе філіялаў. Тут добра ведалі В.Шышонак не толькі калегі-прафесіяналы, але і аматары. 30 кастрычніка 1968 г. у газеце "Тамбовская правда" з'явілася нататка з красамоўнай назвай "Поспех музыканта". У ёй А.Шастакоў, інжынер, кандыдат тэхнічных навук, заўзяты меламан, да таго ж вядомы як уладальнік велізарнай і унікальнай па разнастайнасці музычнай фанатэкі, пісаў: "Валянціна Шышонак прадэманстравала дасканалае майстэрства і незвычайную тэхніку валодання інструментам. Артыстызм выканання, пачуццё стылю, чысціня інтанацый..." Але Валянціна Пятроўна марыла вярнуцца на радзіму, у Беларусь.

Яна скончыла Мінскае музычнае вучылішча, у Кансерваторыі праходзіла музычную практыку. Вельмі хвалявалася за сваіх першых вучняў, з якімі прыйшлося развітацца. Таму сваё размеркаванне ў Тамбоў Валянціна Пятроўна лічыла часовым і нават несправядлівым.

Яшчэ на трэцім курсе Музычна-педагагічнага інстытута імя Гнесіных пасля аднаго з абанементных канцэртаў ёй прапанавалі працу ў аркестравай групе знакамітага народнага хору імя М.Пятніцкага, але яна, не раздумваючы, адмовілася. Па сутнасці В.Пісарчык стала першай з беларускіх баяністаў, праз якую нацыянальная выканальніцкая і педагагічная школа ўзбагацілася найлепшымі дасягненнямі расійскай баяннай традыцыі, праслаўленай такімі імёнамі, як Ф.Ліпс, Ю.Вастрэлаў, А.Скляраў і інш. У інстытуце яна займалася ў класе вядомага педагога, баяніста, дырыжора, народнага артыста Расіі, двойчы прафесара С.Калабкова. Разам з ёй вучыліся такія знакамітыя цяпер музыканты, як народны артыст Расіі, галоўны дырыжор аркестра танцавальнага ансамбля І.Маісеева Анатоль Гусь, народны артыст Расіі, выканаўца і кампазітар Віктар Грыдзін, заслужаны артыст Дагестана, саліст аркестра народных інструментаў імя М.Осіпава Юрый Рэшатаў, саліст аркестра танцавальнага ансамбля "Бярозка" Валерый Мартынаў. Чырвоны дыплом, які атрымала Валянціна Шышонак у музычным вучылішчы і поспехі выканальніцкай дзейнасці ў гады вучобы гарантавалі ёй месца ў роднай ВНУ. Але нягледзячы на гэта і насуперак пажаданням свайго настаўніка А.Болатава, яна адважылася паехаць у Маскву, і ёй пашанцавала. З чатырох баяністак тады, у 1962 годзе, у Гнесінскі інстытут была прынята толькі адна — Валянціна Шышонак. І гэта была сапраўдная першая перамога беларускай баяністкі за межамі рэспублікі. Але пасля двух гадоў працы старшым выкладчыкам Тамбоўскага музычна-педагагічнага інстытута давялося пачынаць усё спачатку, вярнуўшыся ў Мінск. Фармальнае паніжэнне пасады на кафедры баяна і акардэона ў Беларускай кансерваторыі для апантанай творчасцю і накіраванай да вяршынь прафесійнага майстэрства В.Пісарчык нічога не мяняла. Яна паступае ў асістэнтуру-стажыроўку і, працягваючы педагагічную дзейнасць, рыхтуе адну за другой найскладанейшыя канцэртныя праграмы з санат В.А.Моцарта, поліфанічных твораў І.С.Баха, музыкі кампазітараў-рамантыкаў Ф.Ліста, Ф.Мендэльсона, сучасных твораў для баяна.

Старт адразу ж быў узяты рашуча і ўпэўнена. В.Пісарчык ставіць перад сабой усё новыя і новыя задачы на пераадольванне тэхнічна складаных выканальніцкіх прыёмаў, на спасціжэнне змястоўна-сэнсавай глыбіні твораў, шмат раздумвае над драматургічнай і кампазіцыйнай логікай музычнага разгортвання. Не адмаўляецца выступаць на ўсіх шэфскіх і юбілейных канцэртах у музычных школах, вучылішчах, роднай ВНУ з сольнымі праграмамі. Гэтак доўжылася да 1985 г. і, хто ведае, можа б засталося нязменным дагэтуль, калі б пасля аднаго з такіх выступленняў да Валянціны Пятроўны не падышоў яе калега Генадзь Мандрус з прапановай стварыць ансамбль баяністаў — педагогаў кафедры. Здаецца, менавіта тады і ўпершыню без уласных намаганняў з боку В.Пісарчык лёс зрабіў свой вызначальны зігзаг у тым кірунку, які павінен быў стаць надзвычайным у творчым жыцці Валянціны Пятроўны, але ўсё ж яна нейкі час вагалася, меркавала.

У той жа год на справаздачным канцэрце кафедры адбылося першае выступленне трыо баяністаў у складзе В.Пісарчык, Г.Мандруса і Т.Кароткай. Фантазія на тэмы песень І.Лучанка "Камсамольскае юнацтва" ў іх выкананні стала пачаткам агульнага поспеху дзесяцігадовай выканальніцкай творчасці музыкантаў. Сапраўдны трыумф трыо — перамога адразу на двух Міжнародных конкурсах у 1991 г. у Італіі і ў Францыі, дзе беларускія баяністы атрымалі першыя лаўрэацкія прэміі і залатыя медалі. Але на рэспубліканскім узроўні гэта падзея засталася незаўважаная, непачутая і, як ні дзіўна, хутка забылася. Між іншым, пайшла з калектыву Т.Кароткая, а праз некаторы час раптоўна памёр Г.Мандрус...



Здавалася, на гэтым магла б і скончыцца "сціплая" біяграфія В.Пісарчык. Але, на шчасце, не ва ўсіх аказалася кароткая памяць. Трыо баяністаў — выкладчыкаў кансерваторыі набыло да таго часу вялікую папулярнасць як у прафесіяналаў, так і ў аматараў. Менавіта яны сваёй любоўю, павагай да выканаўцаў, вялікай удзячнасцю за самаадданую працу энтузіястаў падштурхнулі В.Пісарчык да стварэння новага калектыву. І зноў пачалася карпатлівая праца...

Знайсці аднадумцаў, якія да таго ж адпавядалі б прафесійнаму ўзроўню і спецыфічным асаблівасцям ансамблевага выканання, дзе кожны павінен быць таксама і яркім салістам, і творчай асобай, — справа не з лёгкіх. Ведаючы ўсе цяжкасці сучаснага жыцця творчых калектываў, без усялякай надзеі на матэрыяльную падтрымку, В.Пісарчык была натхнёная ідэяй адрадзіць бліскучыя выканальніцкія традыцыі папярэднікаў, а галоўнае — аддаць належнае памяці таленавітага музыканта, калегі і сябра Г.Мандруса. За адзін толькі год быў адноўлены былы рэпертуар трыо, які папоўніўся новымі творамі. Канцэртнае выкананне наладзілася і стала больш дынамічным. Нядаўнія выпускнікі Акадэміі музыкі У.Гудзей і А.Перадзерый, якія ўвайшлі ў новы склад ансамбля, разам з яго кіраўніком В.Пісарчык пераканалі ў жыццяздольнасці беларускага трыо. Падтрымка Міністэрства культуры, якое фінансавала паездку на Міжнародны конкурс у Італію, і Фонду Сораса, вылучыўшага грант для ўдзелу ў Міжнародным фестывалі ў Даніі ў 1995 г., надалі ўпэўненасць і маральнае задавальненне Валянціне Пятроўне. Сапраўдным падарункам для яе была відэакасета з запісам канцэртных выступленняў "Трыо-Мінск" у Даніі, якую ўрачыста ўручыла В.Пісарчык Латвійскае тэлебачанне на Нацыянальным фестывалі ў Даўгаўпілсе. Да таго ж трэба дадаць і чарговае званне лаўрэатаў, атрыманае на Міжнародным конкурсе ў Італіі ў 1994 г., а таксама бліскучы канцэрт-прэзентацыю трыо В.Пісарчык у перапоўненай зале Мінскай дзяржаўнай філармоніі. І, калі ўжо гаворка пайшла пра творчыя падарункі, нельга абмінуць новы твор маскоўскага кампазітара Ю.Шышакова — сімфонію-сюіту ў сямі частках "Balesch" (Валі Ш.), прысвечаную Валянціне Пятроўне. Яе першае выкананне на Пятым Міжнародным фестывалі ў Маскве "Баян і баяністы" ў 1994 г. аркестрам Расійскай акадэміі музыкі імя Гнесіных пад кіраўніцтвам У.Фелера з'явілася вышэйшай узнагародай за прафесійнае майстэрства натхнёнай і бліскучай творчасці гэтай надзвычайнай жанчыны.

На Маскоўскім фестывалі ўпершыню пасля чарговага перапынку адбылося і выступленне трыо В.Пісарчык, якая вельмі хвалявалася, усведамляючы вялікую адказнасць за чарговы дэбют у альма-матэр на парозе свайго пяцідзесяцігадовага юбілею. І гэта зразумела, бо тут добра ведаюць Валянціну Пятроўну, сочаць за яе поспехамі і радуюцца кожнаму творчаму дасягненню. Вось толькі ў нас па-ранейшаму прарока ў Айчыне няма... Не трэба ехаць у Маскву ці ў які-небудзь іншы куток блізкага альбо далёкага замежжа, каб зразумець, што В.Пісарчык па праве заслужыла ганаровае званне. Не-не дый зляціць з языка іншага канцэртнага вядучага — "прафесар", і абураешся, чаму гэта відавочнае так не даспадобы тым, ад каго залежыць яго фармальнае зацвярджэнне. Невялікім "суцяшальным прызам" у такім выпадку застаецца толькі тое, што для сапраўднай творчай асобы ўзровень прафесійнага майстэрства вымяраецца іншымі крытэрыямі. Таму В.Пісарчык з аптымізмам глядзіць у будучыню і не зважае на супярэчнасці свайго цяперашняга становішча. "Пакуль у мяне будзе хапаць моцы і здароўя, — кажа яна, — буду іграць, бо музыка — гэта адзіная праўда, у якую я веру". Ды відаць, ёсць яшчэ адна...

Невыпадкова Ю.Шышакоў прысвяціў Валянціне Пятроўне Пісарчык фартэпіянную прэлюдыю з аўтабіяграфічнага цыкла "Жыцця імгненне", глыбока сімвалічная назва якой здавалася мне самым дакладным загалоўкам прапанаванага творчага партрэта. І хоць юбілей В.Пісарчык прыпадае на сярэдзіну апошняга восеньскага месяца, вельмі хочацца, каб ён стаў сапраўднай вясной насуперак календару.

**Вера КАШТАЛЬЯН**

*На здымку: "Трыо-Мінск" у складзе В.Пісарчык, У.Гудзея і А.Перадзерыя.*

**Фота аўтара**

# "БЛЮЗ — ЁН ПАЎСЮЛЬ БЛЮЗ..."



Першы міжнародны фестываль блюз-рока, што прайшоў 20 і 21 снежня ў сталічным кінатэатры "Масква", падарыў нам амаль дзесяць гадзін жывой якаснай музыкі. Дзякуй за гэта "Стар-клубу", які за два гады існавання згуртаваў вакол сябе цікавых музыкантаў з усёй Беларусі, хто грае блюз ці нешта падобнае да яго, і кампаніі "Філіп Морыс".

Калі вы наведвалі жнівеньскія канцэрты ўсебеларускага фестывалю, дык маеце ўяўленне аб "сваіх" выканаўцах блюзу. Праўда, тады склад удзельнікаў быў даволі стракаты, і праграма атрымалася эклектычная. Зараз лінію вытрымалі — гучаў пераважна жорсткі рытм-энд-блюз з ухілам у хард, і агульны ўзровень быў вышэй за летні. (Хаця не зусім зразумела, кіраваліся арганізатары выключна ўзроўнем прафесіяналізму музыкантаў ці адыгралі ролю нейкія ўласныя прыхільнасці, бо з некаторымі вынікамі "натуральнага адбору" можна й паспрачацца.) Апроч "нашых" на свята блюзу былі запрошаны "суседзі": гурты з Літвы, Украіны, Польшчы і Расіі. Другі дзень фестывалю, на мой погляд, атрымаўся мацнейшым за першы, але і тады былі свае героі і бенефіцыянты.

Гурт з Літвы "Road band" літаральна "ўключыў" публіку (выступалі яны ў сярэдзіне праграмы). Госці прадэманстравалі не толькі прыбалтыйскі клас — сыгранасць, чысціню гучання, адвечную стыльнасць, — але добрае пачуццё гумару і сцэнічную разняволенасць, што, на жаль, "нашым" даецца пакуль з натугай. Музыкантаў прыемна здзівіла, што "на блюз" у Мінску сабралося столькі людзей, бо "ў Вільні такое немагчыма".

Вакальны гурт "Камерата" і гітарыст-імправізатар Уладзімір Ткачэнка таксама былі прыняты слухачамі "на ўра", хаця тое, што яны выконвалі, выходзіла за межы фестывальнага мэйнстрыму. Напрыканцы ж дня народ самазабыўна танчыў пад спевы гарных парубкаў з Харкава — гурт "Rain".

А потым быў дзень другі — з легендарнай "Лігай блюза".

Аднак — усё па парадку. На пачатку канцэрта на залу абрушылі лавіну гуку "Blues Street Friends", і публіка завялася з паўабароту. Пачынаць праграму — не самая ўдзячная справа, але беларускія музыканты вырашылі яе з гонарам. Польскі гурт "Blues Beer Drinkers" граў не чысты блюз, а "музыку, якая на ім заснавана", як выказаліся самі госці. На пытанне "Ці адрозніваецца польскі блюз ад беларускага?" музыканты рэагавалі філасафічна: "Блюз — ён паўсюль блюз..."

"Крама" пачала свой выступ з неўміручых "Riders on the Storm", запісаных "Дорз" больш за чвэрць веку таму. Гістарычны момант: сам Генадзь Старыкаў падняўся на сцэну і праваказіраваў адзін з куплетаў. Публіка завыла ад захаплення — натуральна, не кожны прэзідэнт вам папросту запяе а-ля Джым Морысан... Што тут скажаш? Хіба што класіка — заўсёды класіка, і каб сапсаваць яе, трэба прыкласці большыя намаганні, чым "крамаўскія". Што яшчэ? Вы пайгралі, мы паслухалі...

Потым быў даволі моцны інструментальны блок — гурт Івана Маркава, Аркадзь Юшын. Быў і сюрпрыз — імправізацыя дуэтам Юшын-Ткачэнка. Потым улюбёная ў "Лэд Зэпелін" жанчына — Вольга Аліпава са сваёй К (кампаніяй) і рыцарамі Ордэна Сэрца Дракона паказалі музычна-тэатралізаваную дзею на тэмы жыцця і смерці, кахання і сусвету...

Леанід Вярэніч і супер-група "Apple Tea" зноў паставілі ўсіх "на вушы". Гітары, саксафоны, рытм-секцыя... Паслухаць віртуоза гітары сышліся музыканты з іншых гуртоў, удзельнікі фестывалю, а гэты факт сведчыць сам за сябе.

І ўсё ж адна з галоўных падзей двух гэтых дзён — выступ маскоўскай "Лігі блюза". "Вы разлічваеце сёння гучаць за ўсіх?" — спыталіся ў яе лідэра Нікалая Аруцюнава перад канцэртам. "Мы не разлічваем — гэта атрымаецца само сабой", — упэўнена заявіў ён. "Ліга блюза" дала амаль што гадзінны канцэрт у шалёным тэмпе, падчас якога выканала каверы рытм-энд-блюзавых стандартаў, свае старыя хіты і новыя песні. Зал вітаў музыкантаў горача — у стылі славутага "ліпеньскага блюза", нягледзячы на тое, што за чатыры гадзіны канцэрта публіка выкрычалася і стамілася ад скокаў. "Дзякуй, Мінск! Для нас вялікі гонар выступаць перад вамі!" — крычаў на развітанне Аруцюнаў. Ён быў гатовы спяваць надалей, але... музыкантам "Лігі" трэба было бегчы на цягнік.

Да таго ж, як мы зразумелі, "Маскву" далі "Стар-клубу" толькі да 22-й гадзіны, і журналістаў з музыкантамі, якія затрымаліся на другім паверсе, зусім няветліва пагналі адтуль адміністратары "Парадызу". Пад іх гнеўныя воклічы мы і пакінулі той "маскоўскі рай". На вуліцы было марозна, церушыў лёгкі сняжок. "О Божа, падары мне ноч у гэтым горадзе!" — спявала на прыступках "Масквы" нейкая дзяўчына колішні хіт Джэніс Джоплін пра "мерседэс-бенц".

Блюз жыве ў Мінску! Блюз заўсёды будзе тут жыць.

**Ірына БАРАВАЯ**

*На здымку: "вакаліст" "Крамы" Генадзь Старыкаў.*

**Фота Віктара ЗАЙКОЎСКАГА**

## ЗА ПАМЕЖНЫМ СЛУПОМ



# У АБДЫМКАХ ПАНІ ВАРШАВЫ

(Заканчэнне. Пачатак у №№ 1 — 2)

### ГЛЕДАЧЫ "ПАГАРЭЛАГА" ТЭАТРА

Варшавяне сапраўдныя тэатральныя гурманы. За сотні гадоў існавання польскага тэатра выпрацавалася цэлая культура наведвання і смакавання драматычных альбо оперных прадстаўленняў.

Нельга без зайздроснага замілавання глядзець, як апранаюцца, як паводзяць сябе, як размаўляюць варшавяне, пераступаючы парог храма мастацтва. Калі ў нас тэатр пачынаецца з вешалкі, то ў Польшчы, напэўна, з набыцця квітка, на якім стаіць дата таго запаветнага дня, калі з усходам сонца пачнецца Тэатр. А квіток у руцэ спараджае ў душы шчымлівае прадчуванне і пераўтварае чалавека ў часцінку публікі, якая ўжо ведае толк ва ўсім, што звязана з дзействам.

Але гледачы ў Варшаве, як мне падалося, добразычлівыя, яны могуць падтрымаць акцёра, які крыху зарапартаваўся, прыхільнымі апладысментамі. Аднак у прэсе "спуску" не будзе. На старонках газет можна сустрэць натуральныя баталіі журналістаў і крытыкаў, якія кагосьці абараняюць, на кагосьці нападаюць ці б'юцца паміж сабою, што падтрымлівае цікаўнасць да тэатра.

Таму тэатраў у Варшаве даволі многа: "Нарадовы", "На волі", "Размаітосці", "Студыё", ""Вспулчэсны", "Вялікі"... Больш заўважных дык болей за два дзесяткі, не лічачы дробных, напалову аматарскіх, студэнцкіх.

Падчас майго пражывання ў польскай сталіцы адбылася знамянальная падзея: пасля некалькіх гадоў адбудовы — дзесьці ў 80-х гадах пажар амаль знішчыў Вялікі тэатр — нарэшце адкрылася зала Багуслаўскага. І прытым адкрылася пастаноўкай паэмы "Дзяды", якую напісаў наш геніяльны зямляк Адам Міцкевіч, дарэчы, яна яшчэ не перакладзена на беларускую мову. Не пайсці на прадстаўленне я проста не мог. Але ж для мяне, наіўнага, які звярнуўся па квіткі за тыдзень, касірка патлумачыла, што іх не было ячшэ і за месяц да адкрыцця. А калі я па польскім тэлебачанні ўбачыў, што на прадстаўленні прыстунічаў сам Прэзідэнт Польшчы Аляксандр Квасьнеўскі, то зразумеў, што стаць гледачом "пагарэлага" тэатра не вельмі проста і вельмі ганарова.



### ВІВАТ ВОЛЬНАМУ СТУДЭНЦТВУ!

Прэзідэнт польскай дзяржавы наведваў і студэнтаў польскай дзяржавы. Ён віншаваў іх з пачаткам новага навучальнага года. Але ў нашай заходняй суседцы ўжо адрадзілася даўняе цывілізаванае стаўленне да студэнта як да вольнай, самазначнай асобы. Па Варшаўскім універсітэце паўзлі чуткі, што падчас высокага візіту некаторыя адчайныя студэнты, палітычныя апаненты Прэзідэнта, нават спрабавалі наладзіць барыкады з партаў. І ніхто не спрабаваў прымаць рэпрэсіўных мераў супраць палітычных поглядаў навучэнцаў.

Здзіўляе высокая самаарганізацыя польскага студэнцтва. Так, правядзеннем дыскатэкі займаецца выключна створаны спецыяльна для гэтага студэнцкі камітэт. Ён дамаўляецца з кіраўніцтвам наконт залы, упрыгожвае яе, шукае і заўсёды знаходзіць спонсараў, якія прафінансуюць аздабленне залы, прадаставяць каштоўныя прызы для тых, хто стане пераможцам вясёлай гульні, напрыклад, перавозкай на спіне цаглінаў. Стаць спонсарам студэнцкага свята даволі прэстыжна і лепшай рэкламы сярод моладзі не знайсці. Калі кампанія "Пэпсікола" прывезла на дыскатэку пару соцень літраў свайго напоя, то яна ведае, што засмяглыя хлопцы і дзяўчаты ў той вечар будуць піць і дзячыць толькі "Пэпсіколу". Тое самае і з півам. Гэты прадукт робіцца абавязковым атрыбутам студэнцкіх святаў. Але я не бачыў на іх ні боек, ні п'яных твараў, ні... паліцыянтаў. Уся ахова —самі ж студэнты. Праўда, яны больш адпавядалі рангу памагатых арганізатарам, бо ў асноўным займаліся тым, што пераносілі сталы, крэслы, скрыні з падарункамі. Наўрад ці ў нас накачаны як пухір хлопец з аховы, які з-пад кароткіх рукавоў майкі дэманструе свае каменныя выпхнутасці, узяўся б дапамагчы паднесці хударляваму студэнту калонку ўзмацняльніка. Як жа! Ён закліканы жаваць гумку і назіраць прымружаным ад пагарды вокам за парадкам.

### ЗАКЛАПОЧАНЫЯ ВАРШАВЯНЕ

Так, Варшава — горад вельмі заклапочаных людзей. Але скажу шчыра, нашыя і іхнія клопаты не супадаюць. Турбавацца аб хлебе надзённым яны ўжо могуць у пару дзесяткаў разоў меней, чым мы. Бо кошт на прадукты ў Варшаве амаль такі ж, як у нас, а вось зарплата ў дзесяць разоў вышэй. Наконт адзення — таксама. Можна апранацца ад Кардэна, калі не — дык схадзіце на знакаміты Варшаўскі стадыён — рынак, дзе джынсы, якія ў нас у лепшым выпадку вы купіце за 25 даляраў, каштуюць усяго 9.

Дый і па статыстыцы ў Варшаве беспрацоўе найменшае ў Польшчы, усяго 2 працэнты. Ідзе відавочны рост актыўнасці насельніцтва ў прыватным сектары эканомікі. Людзі ўжо зразумелі, што працаваць на сябе — гэта таксама творчасць і прыбытак.

Вось варшавяне і заклапочаны, як зрабіць так, каб фірма і прадпрыемства, ці маленькая канторка, альбо невялічкая крамка, дзе яны працуюць, уяўляла большую цікавасць, а значыць, большы камфорт для кліента — такога ж, як і яны, грамадзяніна Польшчы. А гэта, зразумела, прынясе грошы і больш трываласці між канкурэнтамі.

Таксама вельмі былі заклапочаны варшавяне аперацыяй па выдаленні апендыкса у Папы Рымскага. Кожную гадзіну па радыё перадавалі звесткі аб стане яго здароўя.

Было і так, што вялікія дэманстрацыі пракаціліся па горадзе. Спыніўся транспарт. Але ні паліцыі, ні іх касак, ні дубінак, ні шчытоў відаць не было. Дый супраць каго іх кідаць? Супраць набожных старых і бабуль, якія пратэставалі супраць... абортаў?

А ў Дзень усіх святых, які абганяе нашыя Дзяды літаральна на суткі, жыхары сталіцы ідуць на могілкі, каб наведаць сваіх продкаў, прыбраць магілы, паставіць на іх свечкі. Вечарам, калі едзеш уздоўж могілак, мірыяды агеньчыкаў трапечуць на ветры, ствараецца ўражанне, што гэта сапраўды духі продкаў прыйшлі на зямлю аддзячыць, што пра іх не забылі. І самае прыемнае і можа справядлівае, што пасля таго, як наведаеш сваіх памерлых сваякоў, ставяцца свечкі і на тыя магілы, да якіх ужо можа некалькі дзесяткаў гадоў ніхто не прыходзіць.

* * *



Так, можна сказаць, што Варшава — горад кантрастаў. Праносяцца шыкоўныя лімузіны і тут жа прапаўзаюць, як казачныя жалезныя смаўжы, пражавелыя малалітражкі. На вуліцах убачыш цыганак, якія з акцёрскім майстэрствам дэманструюць невядомую хваробу — сумесь нервовага ціку з цэрэбральным паралічом, якая, аказваецца, мае перапынак на абед. Таксама вас могуць "аблапошыць" вулічныя гандляры дзівоснымі "саматанцавальнымі" марыянеткамі. За даволі прыстойны кошт марыянеткі можна набыць, а вось ці будуць яны ў вас скакаць — залежыць ужо ад вашай лоўкасці рук і пальцаў.

На вузкім ходніку пад вечар ёсць магчымасць сутыкнуцца з купкай "піякаў", якім не хапае на бутэльку. Аднойчы беларускі бард Андрэй Мельнікаў з-за хрысціянскіх пабуджэнняў раздаў тром такім "проськам" па злотым.

— Адкуль пан будзе? — спытаў адзін з іх.

І яны, нават працверазелі ад здзіўлення, пачуўшы ў адказ:

— З Беларусі...

Яны паабяцалі выпіць за нашу Беларусь.

Праўда, праз два кварталы, калі да нас зноў падышлі падобныя чырвонаскурыя асобы, хрысціянскія пабуджэнні Андрэя Мельнікава не змаглі пераадолець атэістычнасць кішэняў. Цяпер, у адказ на беларускае "няма часу" паляцеў адборны польскі мат, маўляў, прыязджаюць сюды нейкія.

Так што Варшава, як і любая пані, можа быць капрызнай.

Мой знаёмы, паляк, які прыехаў з Жытоміра, прызнаваўся, што ён спецыяльна вывучыў без акцэнту мову, спецыяльна чытаў тыя ж кніжкі, глядзеў тыя ж фільмы, слухаў тыя ж песні, якія з маленства ведае кожны паляк, каб адчуваць сабе паўнавартасным прадстаўніком гэтага народа, гэтага горада, але пакуль так яшчэ не адбываецца, пакуль Варшава не выдае яму сваю таямніцу...

І ўсё ж такі, мае асабістыя сустрэчы з людзьмі пераконваюць, што абдымкі Варшавы добрыя і цёплыя. І яны могуць стаць для вас сяброўскімі і нават каханымі. Трэба толькі закахацца самім у пані Варшаву.

**Сымон ПТАШКІН**

*Варшава — Мінск — Варшава, 1996.*

*На здымках: куточкі старой Варшавы.*

# ВЕРСАЛЬ ПАДЛЯШША



У цэнтры Беластока знаходзіцца адна з самых галоўных ягоных славутых мясцін — палац Браніцкіх. З усіх бакоў велізарны палацавы комплекс атачаюць шумлівыя, поўныя аўтамабіляў вуліцы. А тут здаецца, што і час цячэ нетаропка, нібыта вяртаючы нас у тыя часы, калі быў зроблены гэты цудоўны твор чалавечых рук.

Версалем Падляшша называюць палац Браніцкіх, падкрэсліваючы тым самым архітэктурныя вартасці і ягонае гістарычнае значэнне ў палітычным жыцці Польшчы.

Гісторыя замка пачалася ў 1691 годзе, калі Стэфан Браніцкі пачаў перабудову сядзібы былых уладальнікаў Беластока — Весялоўскіх. Але галоўныя работы па стварэнні палацавага комплексу вяліся некалькі пазней пры Клемежы Браніцкім і працягваліся доўгія гады пры ягоных нашчадках. Іхнімі высілкамі быў створаны палацавы ансамбль у атачэнні цудоўнага парку з сістэмай каналаў, сажалак, цяністых прысадаў, пераходаў і мастоў. Гісторыя палаца звязана з імёнамі вядомых палітычных і дзяржаўных дзеячаў Польшчы. У розны час ім валодалі знакаміты род Патоцкіх і пруські кароль, тут была летняя рэзідэнцыя расійскага цара Аляксандра І. Набыты гарадскімі ўладамі Беластока, палац стаў месцам знаходжання гарадскога ваяводы. Месцілася тут і элітарная жаночая школа — Інстытут высакародных паненак.

Сёння ў палацы месціцца Медыцынская акадэмія. Частка памяшканняў абсталявана пад выставачныя залы. А ўвесь палацавы комплекс з'яўляецца месцам адпачынку гараджан, тут наладжваюцца гарадскія святы, музычныя фестывалі.

**Яўген КАЗЮЛЯ, БелТА.**

*На здымку: палац Браніцкіх у Беластоку.*

**Фота аўтара**

КУЛЬТУРА
**ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА - АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА**
выдаецца з кастрычніка 1991 года

Заснавальнік — **Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь**
Галоўны рэдактар — **Алег КАМІНСКІ**

Рэдакцыйная калегія:
**Валянцін АКУДОВІЧ, Арсен ВАНІЦКІ, Андрэй ВАШКЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара — адказны сакратар), Валерый ГЕДРОЙЦ, Уладзімір ГІЛЕП, Ніна ЗАГОРСКАЯ, Сяргей ЗАКОННІКАЎ, Вольга ІПАТАВА, Людміла КРУШЫНСКАЯ (першы намеснік галоўнага рэдактара), Анатоль КУДРАВЕЦ, Мікола КУПАВА, Валерый СКВАРЦОЎ, Алег ТРУСАЎ, Васіль ШАРАНГОВІЧ**

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 418.

Мастацкі рэдактар — **Наталля ОВАД**
Камп'ютэрная вёрстка — **Алесь ЧАЙКА**
Карэктар — **Мая КЛІМКОВІЧ**

**Адрас рэдакцыі:**
220029, МІНСК (МЕНСК),
вул. ЧЫЧЭРЫНА, 1,
Тэлефон: 76-94-66

Рукапісы аб'ёмам больш за адзін аўтарскі аркуш не прымаюцца.
Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.
Падпісана ў свет 20.01.97. у 18.00.

Меркаванні аўтара могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі.
Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.

Фармат А3. Індэкс 63875
Агульны наклад 3250
Замова 81/01
Друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку".
220013, г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79.
**М. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.**
**Д. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.**